[Рас]ійская Соцыялистычная Фэдэрацыйная Савецкая Республика.

„Працоўная беднота усих краеў злучайся"

# [П]раўда аб вайне Польшчы з Савецкай Расеяй.

За што ваюе Чырвоная Армия.

За што ваюе Польшча.

Написаў Т. Радванский,

[Н]а беларускую ж мову пярэклаў Хилимон—з пад Белавежскай Пушчы.

МАСКВА. — 1920.

Литерат.-Изд. Отдел Политическ. Управления Революцион. Военного Совета Республики.

Абедзьве ваюючыя стораны кажуць, што ваююць яны тольки дзеля таго, каб хутчэй дабицца згоды.

Абедзьве стораны винавацяць адна-адну у тым, што адна другую хочэ захапиць, аграбиць.

Як тут чалавеку разабрацца гледзячы з боку? Як пазнаць, хто за праўду стаиць, а хто сам винаваты?

Алеж разабрацца у гэтай справе ганебне патрэбна. Хто стаиць злажыўшы руки памиж двух, што бьюцца, таго лупцуюць з абодвох бакоў. Схавацца ад вайны няма—куды. Каб ты и ў мышыную норку схаваўся, дык усё адно ничога з гэтаго не выйдзе, бо затопчуць.

Прыходзицца воляю—няволяю выбирать. Хоць и нехаця, а ўсё-ж прыдзецца узяцца за трохлинейку—магазынку и бараниць сваё жыцьцё. Дык патрэба толкам зразумець—хто винаваты, хто за праўду стаиць у гэтай крывавай сварцы, трэба зразумець—каго биць, каго бараниць?

На чый жа бок нам стаць? Чы стаяць за Польшчу, чы за Савецкую Расею?

Вось пытаньне.

Даць атказ на гэта адразу ня лёгка' ну але и ня так ужо й цяжка, як на першы пагляд иншаму здаецца. Зразумець гэта можэ сам на сабе усяки крыху з розумам чэлавек, каб тольки добрэ ён пригледзиўся к абодвым ваюючым сторанам и пацикавиўся б даведацца—дзеля чаго яны палезли ў бойку, якая нам усим стала косткаю у горлі.

Дык паглядзимо якие:

# Умовы згоды выставила панская Польшча



Польски ўрад ни разу аткрыта и дагаварваючы усе ня даў атказу на заявы згоды, якия не адзин раз рабила яму Савецкая Расея, ни разу ни выказаў сваих настаяшчых умоў згоды. Тольки з газэт стали яны вядомы.

И вось, па гэтым газэтным весткам, видаць, што Польшча ставиць першаю умоваю пачатку гутарки аб згодзе.

Гэта прызнаць яе рубежы 1772 року. Гэта значыць границы таго старога часу, кали Польшча была самаю вялизнаю захватнаю дзержаваю Эўропы.

Пад ярмом пануючай шляхты, апрыч польскаго селянства, мешчан и жыдоў, стагнали тады мильёны украинских, беларуских и литоўских селян. Проста и ясна: давайце перш, кажуць, вернямся к таму стараму добраму часу яснавельможнай Рэчы Паспалитай, а там мо и пачнем гутарки аб згодзе. Што й казаць — маладцы! Разам с тым польски ўрад заяўляе, што ён признаець «самаадзначэньне народаў»—значыць: хто яким сябе народам личыць.

Иначэй кажучы: давайце зробим загарадзи, гэтую частку хлопскаго пекла назавем Украинай, гэту Беларусью, тую—Литвой, а усе разам заци́снем ў жалезныя клешчи «Хаўруснай дзержавы»— на фасон неўдалае думки нямецкаго кайзэра Вильгэльма збудаваць дзержаву «Сярэдняй Эўропы». Хай «ад мора и да мора» папырыцца пражорливае панскае пузо.

# Умовы згоды Савецкае Расеи.



Савецкая Расея шмат разоў звярталася да Польшчы са славами згоды ад имя Народнаго Камисарыяту Чужаземных спраў, Савету Народных Камисароў и Усерасейскаго Спаўняючаго Камитэту работничых, селянских, чырвонаармейских и казачых дэпутатаў, заяўляючы патрэбу адразу ж скончыць кровапусканьне, зрабиць часова замирэньне и пачаць затым гутарки аб згодзе без усяких наперад асобных агаворак.

Савецкая Расея ня робиць наперад нияких заяў аб рубяжох. Яна безумоўна прызнала, што усе народы маюць права на праўдзивае и поўнае самаадзначэньне. Яна кажэ: живеце сабе па свояму розуму и хочэ для усих брацкаго еднаньня и сяброўскае дапомачы у згоднай працы, ня забегаючы наперад и ня хочучы никога гвалтам змусиць прыняць наперад ужо надуманые парадки супольнаго жыцьця.

Хочэце—жывеце разам, хочэце па асобку,—каб тольки была згода, а не вайна, абы удалося зламаць тые калючия акрываўляныя дроты перагарожы, што не даюць нам запахаць зямлю пад новыя усходы яснаго дню, кали працоўны народ скине з сябе кайданы паншчыны.



## Што робицца у панскай Польшчы.



Польшча аграблена и зруйнована да-шчэнту. Грабило и руйнавало гэты край царскае войска, грабили немцы и аўстрыяки. Цяперика яго грабиць и руйнуе свой польски ўрад, свае польскае войска, тутэйшыя паны, свае капиталисты-спекулянты усякаго сорту и званьня, яким дадзена поўная воля.

Грабяць польски край антантаўские «дабродзеи», прануцския, англицкия и амэрыканския капиталисты.

Мужицкая гаспадарка зусим згинула.

## Зямля як и раней у паноў

Нима ниякае гаспадарскае прылады, нима табе небараку ни ваза, ни плуга, ни быдла. И сеяць часта нима чым. Хоць лажыся, ды памирай. Па гарадох яшчэ горш. Хфабрыки и заводы саўсим зруйнованы и нихто нават и адным пальцам не паварушыць, каб наладзиць их.

## Хфабрыки ня працуюць.

Бо капиталисты ня хочуць брацца за справу, баючыся руху работникоў, у галодных безработных нима ни ахвоты ни силы працаваць на карысць сваих нешчадных прыгоншчыкаў. Беженцаў польски ўрад ня пушчае да дому, бо и без их сотни тысяч мруць в голаду на вулицах гарадоў и вёсак.

Дзесяткамi тысяч вывозяць работникаў у Прануцыю, идзе праўдзивы продаж людзей пад ярмо у чужыя краи.

# Што робицца у Савецкай Расеи.



Аграблена и зруйнована дашчэнту за шэсць гвалтоуных гадоў вайны и Расея. Алеж тое, што застало у ея неразграбеным забрана ў руки работнича-селянскае дзержавы и належиць агульна усим працаўникам.

Зямля атрымана селянами, хфабрыки, заводы и шахты работниками.

У Савецкай Расеи аб'яулена агульная працоўная павиннасць. Хто сам не працуе, той не павинен есьци.

Як ни цяжка и голадна живецца, усё-ж таки селянская гаспадарка, чугунки и параходы, хфабрыки и заводы мала-па-малу, але усё хутчэй и хутчэй начынаюць налажвацца. Павадырами гэтай вызваляючай усих працы з'яўляюцца каммунисты, якия сваим прыкладам у каммунистычныя суботники, васкрэсники и працоўные нядзели паказваюць, як трэба працаваць, не пакладаючы рук и отдаючы гэтай працы свой час адпачынку и вольные хвилины, каб хутчэй залячыць тыя раны, якия стварыла вайна.

Усе вайскавыя каманды, што можна стала, дзякуючы пабедам Чырвонай армии, зняць з фронту, робяцца працоўными армиями. И вось ў гэту старану цяжкае, але вольнае працы цягнуцца работники з других краёў света, едуць ў Савецкую Расею шведския, англицкия, нямецкия, итальянския работники.

# Хто кіруе панскай Польшчэй.



Кіруе панскай Польшчэй Начальнік дзержавы Маршалак Язэп Пілсуцкі, які раней быў начальнікам баевых дружын Польскае Сацыялістычнае партыі, што калісь разбівала манапольки, пачтовыя касы і паезды—дзеля таго, каб паграбіць казённые грошы.

У часе вайны ён служыў гэнэралам у Вільгэльма і камандаваў польскімі легіонамі аўстрыяцкага войска.

Міністры Пілсуцкаго усе чыста буржуі, што прывыкли гнуць працоўны народ у тры пагібялі.

Ў сойме—польскум устаноўчым сойме—ёсць, праўда, крыху і сялянскіх і нават рабочых-дэпутатаў, алеж з самых ціхіх; аднак увесь сойм павінен скакаць пад дудку Язэпа Пілсуцкаго і рабіць тое, што прикажуць яму пранцускіе, амэрыканскія і англіцкія капіталісты, якім прадаўся гэты польскі нацыянальны герой пасьля таго, як згінулі яго першыя немецка-аўстрыяцкія паны.

# Хто кируе Савецкай Расеяй.




Павадыром Савецкае Расеи з'яуляецца Цэнтральны Спаўняючы Камитэт Саветаў, старшынёю якога ёсць Михайло Хфедаравич Калинин, рабочы па мэталу с Пуцилаўскаго заводу, родам с селян-хлебаробаў.

Ва ўсём Спаўнячым Камитэце няма ни воднаго пана, капиталиста, няма ни воднаго чэлавека, карыстаўшаго чужую працу, няма ани-жаднаго такога, хто жыў бы чужым потам и крывёю.

Усёй Савецкай Распубликай зверху аж да самага низу кируюць саветы работникоў и селян, працоўны народ сам сабе пишэ законы и сам их спаўняе.

У Савецкай Рэспублицэ няма правячых и падданных.

Кожны дэпутат и кожны камисар можэ быць заўсягды адозван тыми, хто яго паставиў, и кожны працаўник у любы час можэ зрабицца депутатам и камисарам.

Савецкая Рэспублика ведае тольки адзин падзел людзей: сумленных працаўникаў и дармаедаў-грабежникаў.

## Белы тэрар.



Незалежнасьць Польшчы, якую паляки стольки часу чэкали, павинна была прынясьци Польшчы згоду и спакой, яна павинна была змыць кроў, што сачылася з ран краю, яки стольки пакутаваў и быў так знишчэн.

И вось, дзякуючы збавицялю Пилсуцкаму, усё навакола аж пабялела ад страху.

Белы тэрар пануе па усих краёх, прылучаных да панскай Польшчы, дзякуючы удачы яе аружжа.

Усюды робяцца зверския пагромы жыдоў, вырэзываюцца часами бадай пагалоўна цэлыя мястэчки, гдзе жывуць самыя нешчасныя на свеце бедняки.

Пански бизун гуляе на спинох украинских, беларуских и литоўских батракоў и селян.

Слаўнае польскае войска расстрэливае и палиць целыя вёски за адну тольки прихильнасьць к чырвоным.

А у самой Польшчы гарадския и вясковыя работники трымаюцца у таком панскум уциску, якога ня было навэт у самыя цяжкия часы царызму. За забастоўки арыштуюць, суполки работникоў разганяюцца; за тое, што людзи выходзяць на вулицы з чырвоными штандарами—расстрэливаюць.

Турмы набиты працаўниками, якия з жахам сэрца чэкаюць, што им зробяць: ци выпусцяць як ня маючых за сабою ниякай правиннасци, «на волю» — зноў пад панскае ярмо, пад пански бизун и жандарския кули, альбо просто павядуць на расстрэл.

Белы пясок берэгоў Вислы хутка уцягвае у сябе чалавэчую кроў.

# Чырвоны тэрар.



Таки люты и безміласерны быу чырвоны тэрар. Растрэлян быу бяз суду са усей сваею сям'ёю зьвер Микалай, кат усерасейски. Растрэлян Калчак, кат сибирски. Растрэляна шмат гэнэралау сухапутных и марских, сотни ахвицэрау, тысячы спекулянтау, грабежникау, казнакрадау, без уселякай миласьцы растрэливаюцца налётчики-пагромшчикы.

Кали ранейшые паны-кравасмоки прабавали вярнуць старое свае панства и патаемна згаварвалися аб паустаньи, тады паднимауся караючы рабочы кулак и разбивау у пыл голавы згаварыушымся и бунтаваушым. Кали у самой Савецкай Расеи, акружанае навокал варожыми дзержавами импэрыалистами, здрадники и юды народнай справы прабавали раздуваць свае гораны, каб каваць у их ланцуги старой паншчыны дзеля рабочых и селян, тады чырвоны тэрар заливау гэта полымя их кроую.

Галодныя и прыгнетаямыя растрэливали гэтых катау, як тольки тыя хацели прабаваць знау вярнуць уладу у свае руки.

И кали б яны яшчэ раз адважылися гэта зрабиць, чырвоны тэрар зноу страшэнна удырыу бы па их.

Але чырвоны тэрар скончыуся, дзеля таго, што стары парадак у Савецкай Расеи пахован навеки и больш ня устане з сваёй магилы.

# Каму и як жывецца у панскай Польшчы.



Ў Варшаве вясёлае панскае жыцьцё. Балі, тэатры, віна льюцца рэкою. Матаюць грошы ахвіцэры, гуляюць казнакрады-чыноўнікі, весяляцца растаўсцеўшыя паны з маёнткаў і спэкулянты. Па-праўдзі, ўсё адно што ў часе смяртэльнай пошэсці—Чумы, бо навакола працоўны люд пухне ад галадухі, вымірае ад безрабоцьця, дзеці паміраюць, як мухі.

Па вёсках сыта жывуць адны тольки багацейшыя селяне, сярэдняе ж селянства і бедната жабрацкі марнеюць, павальныя хваробы косяць неміласэрна людзей. Багатая калісь-ці Польшча зрабілась могілкамі з лесамі крыжоў.

І вось дзеля умацаваньня такіх парадкаў, дзеля пашырэньня іх ад мора і да мора і вядзе панская Польшча Маршалка Пілсуцкага гэтую вайну, па-праўдзе, не на жыцьцё, а на сваю смерць.

---

# Каму и як живецца у Савецкай Расеи.




Цяжка жывецца усим у Савецкай Росеи. Алеж там, гдзе хлеб ёсць, там людзи добра жывуць. Селянин у Савецкай Расеи ня ведаець галадухи и беднаты. И рабочаму лепш стала чым другим. Чым цяжэй праца, тым лепш такога чаловека кормиць работнича-селянская дзержава.

Чым лягчэй праца,—тым лягчэй такому працаўнику вытрымаць недастачу, тым меньш об им дбае ўлада у гэты цяжки пяходны час. Бывали и цяжкия дни, кали думалася, што вось-вось глад и холад даканаюць Расею, недастача хватала ужо за горла и здавалася иншаму, што нияк ня можна вырвацца з яе лап.

Бывала так, але минула. Чырвонная армия заваевала хлеб, каменны вугаль и нафту (газу).

Людзи начали адбудоўваць зруйнованую гаспадарку и с кожным днём жыццё становицца лягчэй и вясялей для усих. И вось каб бараниць тое, чаго ужо дабиўся працоўны народ Савецкай Расеи, каб умацаваць гэта—у имя пабеды назаўсягды и ваюе чырвоная армия за згоду, за вольную працу и шчасьце усих працаўникоў.

Выбирай цяперака, хто милей твайму сэрцу. Пара зразумець, каго любиць и бараниць, а каго трэ биць, пакуль ня даканаеш. Бяры-ж трохлинейку-магазынку ў руки и займай мейсца ў радох ваяк!

---

